ГЕНАДЗЬ ПАШКОЎ

# ЗЯМЛЮ СЛУХАЮ

ЛІРЫКА

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1983

* * *

*Як колас жытні ніва поіць*
*зялёным,*
*густым малаком,*
*а неба навокал такое,*
*аж белаю мжыць талакой;*
*як крыллем пявун залапоча,*
*дзьмучы на вуголле зары,*
*і шолахі цёплае ночы*
*вартуюць туман азярын,*
*Зямля —*
*без канца і без краю —*
*напне павуціначкі ніць,*
*закалыхаўшы ратаяў,*
*над безданню мёртвай*
*вісіць.*



# ЗЯЛЁНАЯ ГРАВІТАЦЫЯ

*Лясныя пагоркі.*
*То ціша.*
*То вецер барвовы.*
*Куды ні ступлю —*
*неспазнавальнага столькі жыцця!..*

## НЕСПАЗНАНАЯ ПЕСНЯ

Аднойчы разбудзіць акно
зялёны пагляд Мілавіцы,
дзе млечная далеч адно
снягамі касмічнымі мжыцца.

Трывога накіне мне плашч
імшаных балот журавовых,
пайду,
дзе шчымліва,
хоць плач,
хвалююць нязнаныя словы.

Зямля зараселая спіць.
Спяць злыя і добрыя людзі.
Чаму ж тады гэтак баліць,
трывогаю дыхаюць грудзі?

Не вецер шалее наўзбоч,
а песня ў душы
асцярожна,
як ліст на асінцы,
ўсю ноч
дрыжыць,
а сарвацца не можа.

## МАЁ НЕБА

Колькі вякоў
прадзіраюся да таямніцы —
што там на кожнай,
як слёзка,
блакітнай іскрынцы?..

Можа, і праўда —
Зямлі спаконвечныя слёзы
сумна зіхцяць
залюцелым касмічным марозам?..

Можа, ў зацемненым люстры
адбітак вачэй закаханых,
самых шчаслівых
і самых, магчыма, адданых?..

Можа, надзеі наіўным
мігаюць здалёку,
хто жураўля выбірае
паміж недасяжных
аблокаў?..

Кожную ноч
неба ў добрым гуморы:
кожную ноч нараджаюцца
тайны
і зоры.

Іду у Сусвет я
скрозь зорны абшар
і вякі...
Як там?..
Адкуль там?..
І хто я, урэшце, такі?..

## ДАРОГА ДАДОМУ

Над дарогай жаўранак світае.
Над гарою прадзіва дымоў.
Калі ёсць сцяжыначка да раю —
гэта тая,
што вядзе дамоў.

Рыжай гліны з мутнаю вадою
чарпане фарсісты чаравік,
і адразу згадваеш пра тое,
ад чаго у мітусні адвык.

На дарозе ўпарты статак
стане,
ці не рогам грэбліва кране?..
Старажылка вёсачкі Малання
распазнаць стараецца мяне.

Тут пісаць бы пра зямлю у маі,
ды ўсё больш вяртаюся сюды,
як трывожным шрыфтам выклікае
тэлеграма хуткая бяды.

І трывожна, і шчымліва-млосна,
бо калі не вернешся,
то зноў
сцеляць дым смаляны па-над вёскай
на світанні
меней камінoў.

Яшчэ вокны цеплынёй нябёсаў
ружавеюць пад напевам вос,
быццам перакрэсленыя лёсы,
дошкамі забітыя паўскос.

Але ў тым цябе не дакараю.
Тут шукаць віноўнікаў дармо.
Калі ёсць сцяжыначка да раю —
гэта тая,
што вядзе дамоў.

* * *

Часам здасца: я калісьці жыў.
Пазнаю былое
пакрыёма.
То прасцяг між сосен і ажын
раптам здзівіць вырысам знаёмым,
то падмурак стрэну на гары,
дзе хрумсціць налітымі арэхамі
у малочнай жнівеньскай зары
нейкі час.
Напоўнен яго рэхам я.
Але як было тое?
Калі?
Чаму там,
дзе не ступаў ні разу,
пазнаю зялёны краявід
і знайду сцяжыну без падказу?
І здаецца: ледзь крану рукой
пень трухлявы,
а з глухога стогну
дуб знаёмы ўзыдзе над ракой,
хмары панавесіўшы на крону.
Дык няўжо ступала тут нага?..
Прамінула год не меней тысячы...
Але з пня, дзе сыплецца труха,
посах на зваротны шлях
не высячы...

## ПЕРАД ПЕРАПРАВАЙ

За валам вал
шумуе жыта,
гадуе зерняты пакуль.
А мною гэтак дзён пражыта
з арыфметычным знакам
нуль.

Нібы рачная,
без вясла,
нас плынь жыццёвая нясла,
мая душа,
мая пакута.
О, колькі намі не пачута!
Не пакарана намі зла!..

Мы забывалі пра сяброў.
Мы не казалі лепшых слоў
той,
што любіла нас адзіна,
хоць мы з табою —
як ні дзіўна!..
Ад дзён вясёлых —
толькі крушні,
ды галасок яшчэ двурушны:
перасцярожніца-апатыя
усё настырней сябе сватае.

Стаю на беразе.
Дарогу
сустрэла пераправа тая,
перад якой
пражыта многа,
а што за ёй —
ніхто не знае...

## СЕНАКОС

*І. В. Акушку — працоўнаму чалавеку*

Іван Вацлававіч!
Вакол такое лета!
Мінаючы птушыныя пасты,
іх песнямі расяпымі апетыя,
ідзём касіць над рэчкаю кусты.

Ну і каса!
Такая не замучае.
І не сагне да вечара ў крук.
Як маладзіца хмельная,
пявуча
так і звініць
і просіцца да рук.

Касі,
касі,
але не зарывайся,
не знось галовы купінам,
бо там
чыраначка ў шэрань узвілася,
лапочучы трывогу пакладам.

Хай выспявае шэранькае дзіва,
хай цешыць вока,
радуе душу.
Ты не крычы над намі,
лапатлівая,
не бойся гэтай раніцы,
прашу.

Мы па душы і самі
хлебаробы.
Пазналі пот,
гаркавы прысмак слёз.
У спадчыну займелі
без падробак,
Як гэта праца праведная,
лёс.

Іван Вацлававіч!
Вакол такое лета,
аж зеляне зёлкамі рука!
І маладзіца,
ад туману светлая,
падносіць збан
п'янога малака.

І колькі жыць той радасцю адведзена,
увесь страката-яркі ад палос,
да культу чалабітнага
узведзены
наш сакаўны
да сонца
сенакос.

* * *

Нешта песні сталі грамавыя,
не хапае месца для душы.
Быццам бы і словы усе тыя,
толькі ў рэактыўным віражы.

Помню я,
за вёскаю дзяўчаты
неслі песню ў лес
на верасы,
і над імі чмелік зухаваты
падбіраў мядовыя басы.

Як спяваў салдат былы ў буфеце,
выпіўшы [illegible] адчаю ці са зла,
пра любоў на гэтым белым свеце
і пра тую,
што не зберагла!..

Можа, прымітыўным было слова,
можа, ў сказе сінтаксіс не той,
але выкрасала адмыслова
іскры болю
ноткаю жывой.

Хоць вятры не абдымаюць злыя,
тыя ж зоры вабяць у цішы —
нешта песні сталі грамавыя,
не хапае месца для душы.

Кажуць,
часу новага адзнака...
Не спыніць яго махавікі...
А душа смяяцца хоча,
плакаць,
да гарачай туліцца шчакі...

* * *

Мерайцеся, людзі, на лясы.
Будзьце, людзі, гордымі, як рэкі,
і не дзеля вонкавай красы,
славяцца якой яны ад веку.

Не за спеў расяны салаўёў.
І не за туман на цёплых тонях,
дзе дымком прагоркла лазаўё
і так вуснам соладка ў палоне.

А за смеласць
быць ва ўсім сабой,
не згінаць ні перад кім
каленяў,
хмарнай непагодаю любой
адчуваць зямную моц
карэнняў.

І за тое:
рэчку выпрамляй,
заганяй у трубныя каноны,
а яна...
Лепш высахне яна,
чым парушыць вечнасці законы.

Не ў суладдзі з фальшам галасы.
Не маўчаць паныла перад векам.
Мерайцеся, людзі, на лясы.
Будзьце, людзі, гордымі, як рэкі!

## ЖЫВУ
## АДЗІНЫМ ЗАПАВЕТАМ

Калі і як адчуў цябе,
і дзе ты ўпершыню
захвалявала горача?..
Калыша Нарач чоўнік на вадзе,
з табой пра ўсё даверліва гаворачы.

Радзіма!
Дзе пачатак?
Дзе выток,
адкуль цякуць любві зямной крыніцы?
Навек удзячны я за той глыток,
за той агонь,
што дорыш па іскрынцы.

І мне ў жыцці, назло усім вятрам,
не ачарсцвець душою, не сагнуцца.
Тут цішыня з сінечай папалам
у кожным сэрцы песняй адгукнуцца.

Калі і як?..
Але не ў гэтым соль!..
Спасціг цябе, як шчасце, непрыкметна.
Ты увайшла, як радасць і як боль,
легендамі дарогаў пракаветных.

Вадой і хлебам, словам,
снежных стром,
парывістым арлінавольным ветрам...
Радзіма увайшла ў мяне
святлом,
вялікім,
бессмяротным
запаветам.

## ЗБАЛЕЛЫХ ПАЛЁЎ ВАСІЛЁК

*Пімену Панчанку*

Над лесам —
трацілавы дым,
крыжастая смерць з-пад крыла...
За лесам уздыбленым тым
хмурынка Радзімы плыла.

Трывогай адвечнай палёў,
дзе стогне траншэйна
ралля,
калышацца васілёк.
...Бяру я твой боль, Зямля!

Абвуглены сад.
На палетак,
між котлішчаў вёсак былых,
салдатка вядзе сваіх дзетак,
вядзе хлебаробаў малых.

Трывогай адвечнай палёў,
дзе просіць так ласкі
ралля,
сінеецца васілёк.
...Бяру я твой боль, Зямля!

Налітыя зорна сады.
І хоць не багата радзін,
нам спеўна і молада,
ды
гадуе мурло мешчанін.

Адкуль дзікі корань пайшоў?
І што за праява такая:
з гандлярна-пыхлівай душой
высокія словы гарлае.

Трывогай збалелых палёў,
дзе шчодрая родзіць ралля,
запалымнеў васілёк.
...Бяру я твой боль, Зямля!

Бяру я твой боль, Зямля.
Прымаю уздрыг трывожны,
што рэха прыносіць здаля,
над абеліскам — галля,
і той, што на сэрцы кожным.

...Бяру я твой боль, Зямля!

* * *

Не дай мне, божа,
старцам стаць душою,
раскай скептыцызму
парасці.
Я — чалавек,
і я жыву на тое,
каб чуць жыццё
аж да мазгоў касці.

Каб на Зямлі,
з любоўю і пяшчотай
прайшоўшы шлях арбіты
кругавы,
мо не пазнаць
і нават долі сотай,
загадкі той,
дзе вецер лугавы
шпурляў пад ногі
выспелыя зоры
то медуніц,
то белых халадоў,
дзе сумных песень

белакрылы жораў
усё кружыў
над хатамі удоў.
Не дай мне, божа,
жорсткім быць і сытым,
перш смеласць страціць,
а пасля — сяброў,
калі вакол
на мармуровых плітах —
такія хлопцы! —
Застывае кроў...
Ідуць гады,
усё па-свойму гаячы,
трывожных меней, меней галасоў.
Не дай мне, божа,
слых згубіць аднойчы —
жывую повязь сэрца і часоў.

* * *

Хадзіце на могілкі, людзі,
часцей,
не бойцеся змрочнае песні,
адсюль на жыццё глядзіцца
прасцей —
ні звадак,
ні плётак,
ні плесні...
Душу не ўлагодзіш,
не трапіш у рай.
Сяброў, што палеглі,
не клікай
і век за імклівасць не дакарай —
сэнс веку, як праўда,
вялікі.

Адно зразумей там,
дзе скрозь курганы,
дзе лёсаў зямных
перакрэслена,
што дні твае прагна
клююць груганы
то звадак,
то плётак,
то плесні...

## ПАРТРЭТ СКАРЫНЫ У ПАДУІ

Эпохаў усіх ілжэгеніям,
усім сябелюбцам назло,
сумленне чыё
карэннямі
ў Радзіму
не урасло;
усім, каму сніліся помнікі,
хто праг у граніце стаяць,
куды паімчацца паломнікі,
каменьчыкі падбіраць;
усім, хто пражыў чужым потам,
чужою крывёю —
назло,—
чые манументы потым
кляйміла эпоха:
«На злом!»,—
на нас, з даўніны,
старажытнаю
памяткаю
праз вякі
глядзяць
чысцінёю блакітнаю
радзімыя васількі.

Ад тых, хто, ўзлятаючы, падае,
няўдзячна адпрэчыцца свет.
...Партрэт Скарыны
у Падуі,
майго земляка партрэт...

## НАВУКА СЛОЎ

Я спасцігаў навуку слоў
і думаў, што навука —
аснова ўсіх зямных асноў,
сумленнасці зарука.

Я чуў у слове дух зямны,
размах абшараў зорных;
то раптам колкім і зімным
цябе ўсяго агорне,
як загрыміць басовы гнеў,
гатовы свет раструшчыць,
што праўду солана так гне
разбэшчаным ад тлушчу.

Адкрыла таямніцы мне
навука слоў вялікіх,
ды ўсё часцей здаецца —
не,
не ўсе я здаў залікі.

Мне кажуць словы пра вясну,
а ўслед — адны завеі;
спакойнага жадаюць сну,
руіны спю Пампеяў.

І што не скажуць —
міла чуць!
Але, бяда, пачуцці
тады, відаць, не тым жывуць.
О, лепей слоў не чуць бы!

Але яны вакол...
Як быць?
Як слоаў тых пазбыцца?
Ці, можа, з імі мірна жыць?
Ці зноў пайсці вучыцца?..

### ПАЎСТАНАК

Траўны вецер на паўстанку.
Елак паласа.
Шахае без перастанку
у траве каса.

Прагрымяць вятры у свет,
што прапахлі смоламі.
Сцежка гоніцца услед
за цяжкімі коламі.

Пойдзеш той сцяжынай пеш —
аж усё іскрыцца! —
Шапку з верхам набярэш
сакаўных суніцаў.

Можаш мятны ставіць чай,
можаш чабаровы,
ды паціху пазычай
зёлкавыя словы.

### КАПАТКЕВІЧЫ

Хай іншым дорыць глобус
чужыя астравы.
Вязі мяне, аўтобус,
у край той баравы,

дзе Пціч,
дзе Капаткевічы
сумуюць над вадой.
Там дзед, у лодцы седзячы,
вяслуе барадой.

Б'юць дрыжыкі па скуры —
характарам размяк! —
У лодцы той панура
рагаціцца вядзьмак.

Сівы і барадаты —
як дзеду, мабыць, год,—
за раніцу пад хатай
скапыціў агарод.

Вязе казла дзед.
Страшыць.
Такі прысуд казлу:
«Не хочаш добрай пашы,
пацерабі лазу!»

Хоць праклінаюць жонкі
хібарку ля ракі,
крыклівую гамонкай
заняты дзецюкі.

А выветрыць кішэні
вясёлы «Вецярок»,
упрошваюць калені
зваліцца ў чабарок.

А там і дню спачынак
калышуць чараты
і вывадак качыны
кульгае ад вады.

І гэтак пахнуць зёлкі,
плывуць, як ад ракі,
па вуліцах пасёлка
рагоў маладзікі!

Над цёплай азярынай
перамяшаў туман
гаркавінку каліны,
вугельчыкаў дурман.

Такая вокал ціша!
Чуваць,
як нейкі птах
пяром дзяркатым
піша
паэму у кустах.

Хай іншым круціць глобус
чужыя астравы,
сядаю у аўтобус —
і ў край той баравы!!!

## З НАС КОЖНЫ МАЕ...

*Сяргею Законнікаву*

З нас кожны мае
свой грыбны барок,
які навечна ў сэрцы захавалі,
дзе нам зязюлі
для цяжкіх дарог
з імхоў зялёных
сцежкі скукавалі.

З нас кожны мае
рэчку ў чаратах —
дарэмна, што там раўчук даўно ўсохлы,—
там шчупакі рудыя ў нератах,
што таплякі,
пазарасталі мохам.

З нас кожны мае
вогнішча тае,
што толькі раз запальваем, магчыма,
яму у сцюжу згаснуць не дае
на ўсё жыццё абраная
жанчына.

З нас кожны мае
курганок.
На ім —
бяссмертнікі, былінкі іван-чаю...
Перад плітою памяці стаім,
сваю душу
нібыта ачышчаем.

З нас кожны мае
вечаровы сум
пад ліпамі дуплястымі хаціны...
З нас кожны мае
светлую ад дум,
як і жыццё,
адну навек,
Радзіму.

* * *

Пад скляпеннем замшэлым,
дзе ладанам пахнуць
малітвы,—
электрычныя свечкі,
як штучныя слёзы
надзей.

Чалавек ля распяцця
укленчыць на плітах
і да ног мармуровых
вільготнай шчакой
прыпадзе.

Чалавеча!
Якому ты молішся богу?
Дзе ж ён, твой валадар,
гэтым часам,
калі
і нябёсы твае,
і зямелькі аблогу
ідалы
атамныя
занялі?..

## ПАВЕТРАНЫЯ КІТЫ

Лудзячы хмарнаю мрояй
прапелерныя раты,
лётаюць над вадою
паветраныя кіты.

Можа, гадуючы ліха,
сталіся для наводкі
у спратах зялёных рыфаў
атамныя падлодкі.

Пэўна, з трывогай такою,
ракочучы да нематы,
плаваюць над вадою
паветраныя кіты.

## НА СЦЕНАХ КАЛІЗЕЯ

Вітанне, Рым,
вякоў памшэлых
спрат!
Такія скрозь харомін эпапеі!

А мне б спасцігнуць
стыглы камнеспад
загадкавых руінаў
Калізея.

На скрыжаванні часу і вятроў
яго калоны
не ўтрымаюць высяў.
Але чаму
збянтэжаны натоўп
у засені алівавай спыніўся?

Нібы лязом — па зрэнках!
Па-над брукам —
здаецца, ледзь трымаецца на нітцы —
навісла над галовамі
гадзюка,
ахвяру выбірае сабе быццам.

Гусцеўся змрок
магільны і зімны.
І прыгадаць усім было дарэчы:
калісь гадзюка прагла
Шар Зямны
скруціць у мёртвы вузел,
каб — навечна!

Звівалася у катаўскіх вачах,
на рукавах
і на штандартах
дзіка
пад карканне вар'ятава:
«Знішчай
і дай рабоў імперыі вялікай!»

...Маўчаў пануры немец.
Сціх індус.
А Калізей
з падмурка
да вяршыняў

глыбастаю грабніцаю
свой груз
на плечы чалавечыя
абрынуў.

Хтось задыхаўся,
мацаў валідол.
Маўчун-манах,
бяздумны, быццам рыба,
нагамі падбіваючы падол,
да ціхага прыстанішча падыбаў.

Але ці ёсць,
ці ёсць прыстанак дзе,
калі жывеш
Зямлі пякоткім болем,
калі высакавольтны ток ідзе
праз кожны нерв,
што быццам дрот
аголены?!

Было жахліва,
вусцішна ля сцен,
дзе зблыталіся колеры і мовы:
няўжо гадзюка ў прыцемках расце,
каб белы свет ускалыхнуць
нанова?!

А Калізей?!
Пры чым тут Калізей!
Яго камені хіба вінаваты
за ўсе трывогі
і за кроў людзей,
за тое,
што жывуць яшчэ вар'яты?..

Руйнуй, эпоха,
раўнадушша сон,
мяшчанскай палахлівасці
прыкметы,

пакуль не смерці грыб,
а парасон
зялёных пушчаў
развінаюць ветры!

* * *

Як ёсць цяпер,
урэшце так выходзіць:
свой лёс рашаць
планета нам дала.
А у жыцці —
перагартай стагоддзі —
За існасць спрэчка вечнаю была.

Каса ці камень?..
Меч альбо арала?..
Руіны... ляды —
з пушчы стогн лася...
Але ж яшчэ планета не стаяла
перад трывогай гэткаю,
уся.

На ёй вясна пупышкі распусціла,
то — выраю зялёныя агні.
А на экране —
што там? —
птушак крылы
ці бамбавозы гэта ў вышыні?..

І вусцішна, няўцямна і жахліва:
памыліцца камп'ютэр, а тады...
Скрозь веснавое сонечнае мліва
ахутвае блакітам гарады...

Калі б хапіла сэрца чалавечага,
каб тое пекла назаўжды суняць,

гатовы я,
людскім цяплом асвечаны,
сваё,
адно,
за сэрцы ўсе
аддаць.

* * *

Ледзяное мора на Таймыры.
Лашчыць сінь пагодную Каўказ.
Заспяваюць у гарах башкіры,
далятае песня і да нас.

Не падасць з бярлогі сваёй
злога
голасу
напышлівасці звер:
пралеглі імклівыя дарогі,
межавы асіліўшы бар'ер.

Будачкі ў бяссонні.
Семафоры
шлюць зялёны...
Гулка навакол,
лічачы пралёты верставыя,
б'юць па стыках колы цягнікоў.

Стэп прымаў, праслаўлены акынам,
і тайга, дзе плытка Об
плыве,
і барханаў караван панылы,
і Памір з чалмой на галаве.

І куды ні рушу,
то, вядома,
розніцца асмужаны абшар,

але сустракае, быццам дома,
мацярынскай шчырасці душа.

Я вам, людзі,
так за ўсё удзячны,
і любоў да скону зберагу,
а іначай...
Як жа жыць іначай?
Не хачу,
не ўмею,
не магу.

## ДОМ МАЯКОЎСКІХ ПАБЛІЗУ КУТАІСІ

Грымяць белыя коні
ледніковай вады.
Бунтары і ціхоні,
што вас вабіць сюды?

Над грымучым парогам
узвіхураны дым.
То, напэўна,
дарогі —
не ў адзін толькі Рым.

Снежна горбіцца збоку
у імгле
далягляд.
Млее сонечным сокам
вінаград —
вінны град.

Мчацца коні у пене
над абрывам крутым,
толькі іскры з каменя —
снапом залатым.

Куст
калоціцца лісцем,
каб запамятаў госць:
і цяпер,
як калісьці,
супярэчнасці ёсць.

Мчыцца конніца
міма,
узмывае туды,
дзе старая даміна
у кустах,
ля вады
ловіць гул перакатаў.
Да кіпучых глыбінь
цераз бераг пакаты
цячэ горная сінь.

Дом
ля воблакаў блізка.
На тэрасу ідзём.
Нам насустрач калыска
валюхнецца дзіцём.

А над ёю вяршыні,
адступіўшы
на крок,
задуменна ўспаміны
вяжуць з пуху аблок.

Мчацца белыя коні —
не супыніш хады! —
праз вяршыні,
праз тоні,
праз цябе,
праз гады!

## МАРФІН КАРАБЕЛЬ

На мяжы тайгі і тундры,
за пасёлкам Парабель
сыпле вея іней-пудру
па забыты карабель.

За адсталасць ад прагрэсу
мусіць берагу служыць —
адзінока
паміж лесу
воддаль прыстані дыміць.

Варанню жытло на рэях,
як на беразе панік.
На антэне
лубянее
канапляны
палавік.

Круціць жорны сцюжа злая,
гоніць воблакаў гурму,
белай хваляй
налятае,
накрываючы карму.

У чаканні верталёта
пасажыру не ўтрываць:
што маленечкія соты,
вокны круглыя гараць.

Расквяціла ў печы барвы,
запрашаючы гасцей,
цётка Марфа.
Цётка Марфа —
сібірачка да касцей!

Што за Марфа?..
З хаты дзіва!..

— Просьбу ўважылі,
калі
паварыхай адхадзіла
трыццаць год на караблі.—

Быццам рада госцю цётка:
— То смялей праходзь...
Здароў...
У тайзе
аж да паводкі
так марозіць — стыне кроў!

Чым багата, прывячаю.
І ад сцюжы сродак ёсць,—
мне з бруснічынкамі чаю
налівае: —
Выпі, госць...

— У тайзе,
над Об'ю-рэчкай
як жывецца вам?
— А так...
Во, адна,
нібыта свечка,
на усіх сямі вятрах!
Часам нуджуся зімою.
Як сцяжыны занясе,
то здаецца,
што са мною
паразвіталіся ўсе.

Летам што?!
Жыву.
На службе.
Летам — ягады,
грыбы
марынуем,
варым,
сушым
па манер,
па густ любы.

У сезон баравіковы
увесь клопат — аднаму:
тут на купах багуновых
штодня
кошык падыму.

Пасялковы грыбаваршчык,
аднаногі Нікадзім,
кажа:
«Любы мой, таварыш,
план закупачны здадзім!»
Жартаўнік!..
А ў працы — люты.
Як патрапіцца ляйчына:
«За сібірскі грыб
валюту
атрымоўвае Айчына!»

...Як жывецца
у замежжы?
— Кажуць цесна...
— Во, калі б...
Ды цяпер турысткай дзе ж мне?!
Хай каштуюць Марфін грыб!

Пасля чаю каля печкі
выцірай хусцінкай пот.
...Снег узвіўся белым смерчам.
— Ну, пара мне. Верталёт.

— Пачакай-ка, мілы, крышку...
Каб лацвей было ляцець...—
нясе цётка Марфа шышку
бурую, нібы мядзведзь.

«Добрым людзям — прывітанне!» —
чую крык.
Віруе бель.
Завіруха замятае
адзінокі карабель.

## ТАЕЖНЫ ПАСЁЛАК

Вышэй за стрэхі —
бярозавых дроў
зіме ля камінкаў пагрэцца.
Ранку маладая кроў
на іней імжысты
ліецца.

Распэтланы кот
каля сенцаў пішчыць,
гуляка,
на прыпечак просіцца.
Чакае крамніцу кладаўшчык.
Тупае,
на вітрыну косіцца.

Пахне бруснічнікам.
Пагодны знак —
дым не на гурбы кладзецца.
Прайшла маладзіца.
Зірнула так,
ажно прымарозіла сэрца!

Наледзь на студні,
што барада зялёная вурдалакі.
— Ну, як вада?
— О-го-го вада!
Напэўна, зімуюць ракі?..

Ох, сібірачка,
каб я сібірак
быў,
то у гэтую сцюжу
узяў бы вядзерца тваё
і так
звёў бы ў тайгу ад мужа.

— Вядро паднясі...
Дык, значыць, здаля?

Гляджу, што не дужа гонкі.
Таму не ты мяне,
а я
цябе
украду ад жонкі...

## ДА УРАЛА!

Будзеш ты пасля не рад
(ездзіў з ім нямала):
— Падвязі мяне, Булат,
сёння да Урала!

Што дарогі,
як вакол
стэп залёг кавыльны.
Шар Зямны
ляціць з-пад ног
грудакамі гліны.

Без лілею,
без абраз —
хто каму павінны?!
Рве прастору
тарантас,
нібы рэактыўны!

Як джыгіт,
то за рулём
быць табе джыгітам.
Зырка бліснула здалёк
паласа блакіту.

Ад спякоты
ля кашар
збіліся атары,

і з размаху —
                    прама ў твар
вецер,
        стэп
            ды хмары!

## ДАРОГА У САХАРЫ

Папярхнуўся аўтобус,
                              заглух
сярод дзікай
                    сасмаглай пустэльні.
Млее пекла біблейскага дух
на распаленай дымна
патэльні.

Адзінокі не спыніцца джып:
покуль раніца —
лепей праскочыць!
Смерч уздыблены
                        у паранджы
і цябе заадно
                    прапясочыць.

Без вады і без ценю —
крычы,
хто пачуе у мёртвай Сахары?
...Жоўта-зыбкая далячынь...
Пірамід геаметрыя ў марыве...

Між зямлёю
і небам рудым
адплываю,
                нібы аблачына.
Толькі ўсё ж,
                    нават кропляй вады,
упаду ў твае пушчы,
Айчына.

## УКРАІНСКАЯ ПЕСНЯ

Калі у пушчанскай маёй старане
шчадруе ў застоллі сябрына,
то з песнямі,
што гадавалі мяне,
хмялее і песня Ўкраіны.

Ці Шляхам Чумацкім
маркоціла стэп,
ці вусны расквечвала сечы,
была у пашане,
што праведны хлеб,
галінкай душы чалавечай.

Ні чорныя ветры
збуцвелых эпох,
салонаў азызлая пыха —
ніхто і ніколі
зняволіць не мог,
маёва квітнела над ліхам.

З таго перабытага
час не злякаў,
і век-іскрамёт
не з'інача.
Песні Шаўчэнкі
і песні Франка —
народу
адвечная спадчына.

Таму і ў пушчанскай маёй старане,
дзе ядрацца
слоў журавіны,
вешчаю думай
шчымліва кране
праменная песня Ўкраіны.

## КУПАЛАЎСКІЯ ГАІ

Што там у свеце?
Што вы пачулі,
тэлеантэнаў гонкія тычкі?
...Ля Радашковіч
куваюць зязюлі,
соннае рэха
нясуць электрычкі.

Горы блакітныя
ў лёгкім тумане.
Вяжацца рэчка-быстранка
з крыніцаў.
Ельнік-старэча
задумна
на камень
рыжа-праменнай
цяруша ігліцай.

Босая сцежка.
Трыпутнік прымяты.
Жаўранка кропелька
затрапятала.
З навісі голля,
ля сажалкі
хата
пагоднаю сінню вачэй
прывітала.

Стронга імклівая
ў люстры сцюдзёнай
каля альшэўніку,
на перавале,
збірае да спёкі,
густой і паўдзённай,
ноччу апалыя
з неба
каралі.

Колькі гаі
на узгорках,
далінах,—
кнігаў зялёных уладары,—
пералісталі лістоў у галінах
з майскіх дасвеццяў
да белай пары!

Том за тамінаю
перагарнулі.
Лісце аджылае
ціха апала.
...Гэта ж з гаёў
на узгорках
зязюлі
лічаць бяссмерце
песням
Купалы.

## ЛЯЎКІ

Дуб —
стагоддзяў ахоўнік —
ля Дняпровай лукі.
А вакол арахоўнік
і зялёны такі!

Пратаптана сцяжына
кім,
калі ўпершыню?
Над сасмяглай ажынай
чмель снуе
цішыню.

Гоман ціха ўзнікае
там,
на строме ўгары,—

каля рэчкі
блукаюць
з той пары
вудары.

Дзесьці сум адгукнецца
у зялёных дубах.
І любоў
прама з сэрца —
як агонь,
            на губах.

## ВЕНЕРЫН ЧАРАВІЧАК

У сіняй Белавежы,
дзе змрок начы
                    не вычах,
знайшоў між разнасцежжа
Венерын чаравічак,
хоць купа махавая,
брусні́чніку кусты
ад вока прыхавалі
ў зяленіве густым.

Ён зоркавай акрасы
ад кропелек вады.
Сярэбраны абцасік.
Насочак залаты.

Ад ранку
чмель
        у лычык
гугнявіў,
            снуючы:
«...Красуня чаравічак
згубіла уначы...»

А дзе ж красуня тая?
Якой пайшла дарожкай?
Малініікавай?..
Злая
жыгучка
джгала б
ножкі...

А можа, леснічоўка
пад шатамі яліп?
Там сушыць хлопцам зёлкі
больш хмельныя ад він.
Нашу той чаравічак
дасюль,
ад той пары
яе шукаю,
клічу
у пушчы, у бары...

Дачулася няйначай...
Распытваю...
Але
ніхто яе не бачыў,
не кажа пра яе.

Усё трывожней сэрцу...
То, пэўна,
гэты раз
красуня адгукнецца,
чытачкі,
сярод вас!..

* * *

Маладая воля.
Зелянцовы хмель.
Лугавіну поле
працавіты чмель.

Акунькі,
як пырскі,
ўдарацъ з-пад ляшчыны:
металёва бліснуў
шэры шчупачына.
Над вадой зыбучай,
намачыўшы чуб,
расстаўляе бучы
у карчэўі дуб.
Кіне ў неба шапку,
і над галавой
паплыла вушанка
хмарай дажджавой.
Наламаеш голлейка.
Высцелеш пасцель.
...Маладая воля.
Зелянцовы хмель.

## ЛЯ КАСТРА НАД ВОЗЕРАМ

Гушкаецца, быццам
дзіцянё малое,
ў травяной калысцы
возера лясное.

Нехта нетутэйшы,
як дзень дагарае,
зоркавыя блешні
у чарот шпурляе.

Цемру
у трох кроках
драчык дакарае.
Цёплай паваловай
пушча акрывае.

Між крушын
нявінна —
ў чым радзіла мамка —
выйшла з азярыны
юная русалка.

А каб не сурочылі,
наламаўшы голля,
атрасае кроплі,
гасячы вуголле.

## ПАД СУЗОР'ЕМ СТРОНГІ

*Анатолю Вялюгіну*

Не проста вудары —
заядлыя страngісты,
блукаем на зары
ў алешніках
над быстрай.

Ліхтарык у руках
затлеў маладзіковы,
б'е ў тапляках рака
зялёнаю падковай.

Здаровы снегу пах
выдыхваюць аблокі.
Крычыць на елцы птах,
як месяц, адзінокі.

Сузор'е па вачах
іскрыста красанула,
ударыла з карча
і лёску нацягнула.

Не хцівасці аброк!..
Жыцця —
па поўнай мерцы.
Крыніца
праз жвірок
струменіць прама ў сэрцы.

## ПРЫГАРАДНЫ ЛЕС

Можа, войскі
нязнаных плямён
затаіліся
у балоце:
на ствалах —
пералікі імён...
Цэлафанавае ашмоцце...

Елкам ссеклі галовы.
Вакол
то кастрышча — пад ногі,
то — яма.
А рабінка, ўтаптаная ў дол,
абадраная,
пераламана.

Толькі б далей ад злых вачэй,
праз бутэлькі,
іржу бляшанак
ручаінка ледзь-ледзь цячэ,
уцякаючы
у альшанік.

Слава богу,
што Пціч яшчэ ёсць,
баравіны
з баравікамі,
і што я там
пакуль не госць
з прагна ўчэпістымі
рукамі.

* **

Мы напачатку звалім лес,
а ўжо тады зірнем у корань
і аб прыродзе нашай спрэс
прамоў прачулых нагаворым.

Чытаюць іх
                    або ляжаць
трактаты ўзнёслыя і злыя,—
пад піламі ажно звіняць
бары і пушчы векавыя.

Панылых просек
                    на зямлі
не меней, пэўна,
                    нашых песень.
Гарыць жывіца на камлі
жывой слязой
                    па мёртвым лесе.

Карчы і пнёўе
                    адсмыляць.
Хмызняк схавае неўзабаве.
Ты сам сябе
                    перш вінаваць
у гэтай варварскай
                    забаве.

Ты у сябе спытай найперш,
адчуўшы
          дрэва
                    кроўным братам,
твой ветравейна-лёгкі верш
сасны зялёнай той
                    ці варты?..

* **

Круцяць гадзіннікі час,
ды не па іхняй ахвоце
стрэсы прынізваюць нас
сваёю нябачнаю
                    плоццю.

Бярэм за бар'ерам
                    бар'ер,
пылам і дымам асмужаны,
кожны наш дзень цяпер
громам касмічным
разбуджаны.

Жыццё — марафон.
Пэўна, час
у тым вінаваты
касмічны,
што узвялічыў нас
і пагражае
знішчыць.

Час вечны і ён —
                    ні пры чым!
А стрэс
          маё сэрца
                    абмацвае,
бо прагну перамагчы
зялёнай Зямлі
гравітацыю.

## НОЧ

Адкрычалі сваё перапёлкі.
Скарацеў дзень.
За лесам патух.
І такі па-над ворывам горкі
з туманом перамешаны дух.

Ноч. І цені навокал.
Цыгаркі
нехта курыць,
няўбачаны днём —
над палямі успыхваюць ярка
то зялёным,
то сінім агнём.

## ВОСЕНЬСКАЯ НАВАЛЬНІЦА

Пратупаў дождж на тонкіх ножках,
і прама ў пушчы, на мяжы,
агніста выбліснулі рожкі,
траскуча ўдарылі ў лаўжы,
ажно ласіны рык пранёсся
па спалымнелых гушчарах,
відно, рагатаму здалося:
«На бой пара!»
«На-бой-па-ра!!!» —
прыняты кліч ягоны смела.
...На пнях, ля елак акурат,
вакола гэтак панасела
апенек, быццам мышанят!

* * *

Верасовыя дасвецці.
Дзён пагодная прыкмета.
Свет спакойны.
Ціха ў свеце —
толькі вецер
перагортвае лета.

Верасоўнік на паляне,
купы моху між балота.
Як ні ступіш,
як ні глянеш —
узварушана лістота.
Заірдзеліся імшары,
за градою баравою.
журавінавым пажарам,
смалякоў
загуслым жарам
спее смутак журавовы.

## ЗІМОВЫ БЕРАГ

Скаваў мароз
цяжкія латы
льдзінаў.
Ганяе вецер снег,
нібы луску.
Яшчэ ледзь-ледзь
чарнее ля хаціны
старая лодка.
Побач,
на пяску,
гарацъ
лімона яркія лушпайкі.
Чуваць між сосен
недарэчны смех.
Куды ні глянь,
вакола —
толькі чайкі,
як скомканы,
параскіданы
снег.

Аматарам няходжаных дарог
адна забава гэткаю парою.
Кранецца мора,
смагла
каля ног
абліжа снег
гаркаваю вадою,
то выкіне з-пад лёдавых акоў
зялёны невад
ацяжэлай ціны...
Марзянку ловяць дальніх маякоў
у белым сне
рыбацкія хаціны.
Зімовы бераг —
успамін падзей.
Ударыць хваля,
як было вякамі.
Зімовы бераг
веснавых надзей
запальвае
зарніцы
маякамі.

* * *

Млее спелае лета.
Сонца.
Крыніца ў бары.
Гэтак шчаслівa і светла
жаўра звініць на зары.

Пахне суніцамі,
мятай,
і у крамянай расе
лісцікі, і колас вусаты,
і баравікі ўсе.

Небам плыву, ці шапаю —
звабныя бачу агні.
Вечны вандроўнік душою,
тут берагу карані.
Гукі зямныя і краскі...
Спёчна-малінавы кут...
Самыя лепшыя казкі,
песні найлепшыя — тут.

* * *

Ты сказаў:
«Задужа светлы склад твой.
Фарбы бяры, змрочныя ў начы,
і такіх трагедый панаскладвай,
каб загаласілі чытачы!»
Зноў бяру чарніліцу світання,
чарацінку ў срэбры капяжа,
без патугі на манументальнасць
пішу тое,
што пяе душа.

4 Зак. 3347



# ДУША

*Спасцігнуць бы ісціну...*
*Можа, у гэтым адгадка:*
*за ўсё, што ты маеш,—*
*суровай цаною плаці!*
*Каб нехта сказаў*
*пры апошнім,*
*тым самым,*
*выпадку:*
*«Ён быў бессмяротны*
*душою сваёй*
*пры жыцці...»*

* * *

Лясныя пагоркі.
То ціша.
То вецер барвовы.
Куды ні ступлю —
непазнанага столькі жыцця.
Ручайка караблік падхоплівае
папяровы,
і следам бяжыць
і верыць у нешта
дзіця.

Асенняя далеч.
І хочацца крыкнуць пад вецер,
каб рэха сігала
аблочную сінь калыхаць.
Старому пытанню —
нашто я жыву ў гэтым свеце? —
шукаю адказ
і ўсё не магу адшукаць.

Гарлай — не гарлай,
а жыццё не абгоніш,
не вернеш.
Шумі — не шумі,
а яно адшумуе няўзнак,

і бессмяротнасць,
наіўна ў якую ты верыш,
усё ж не пазнаеш
і не адчуеш ніяк.
Спасцігнуць бы ісціну...
Можа, у гэтым адгадка:
за ўсё, што ты маеш,—
суровай цаною плаці!
Каб нехта сказаў
пры апошнім,
тым самым,
выпадку:
«Ён быў бессмяротны
душою сваёй
пры жыцці...»

## ЖУРАЎЛІНАЯ ПОШТА МАКСІМА

Я далёка ад дому,
а дом мой — пры мне.
Як цыган,
я вандрую дарогамі лёсу,
і што суджана ім,
пэўна ж, не праміне,
як зямельку абдыме калоссе.

Калі вырай захмар'я
сюды прыплыве,
з тае пушчы,
з балот,
з той мяжы васільковай,
папрашу жураvoў:
— Пёрка скіньце вы мне.
Напішу развітальныя словы.

Тым сівым курганам
між панылых палёў,
пад лісцём шапатлівага гаю,
тому млыну,
дзе я пад вадою залёг
і бяспамятна колы піхаю.

На ўзыходзе згарае зарына мая.
Дагарыць —
цемру ў грудзі абрыне.
Хоць тады абдымі,
маіх продкаў, зямля,
хоць у багну вазьмі,
хоць у гліну.
За сцяной маёй
цуглямі коні грымяць
і жалобны рамізнік чакае.
Ну, а песню,
што здолеў
табе праспяваць,
перашлю журавамі,
мой краю...

* * *

Хіба рэха закуеш у межы?..
Полацк...
Даўгапілс...
і Панявежыс...
Хіба не пароўну дзеляць святы
берагам усім сваім
Дрысвяты?!

Поле.
Лес.
Званочкі лугавыя.
Чэрпай сінь сцюдзёную
вяслом.

Пералівы слухай гукавыя
самых лепшых
найкарэнных слоў.

На сцяжынах лёгка заблудзіцца.
Дзе чыя тут грэбля або гаць?
Ноччу ходзяць хлопцы праз граніцу
шчасця русакосага шукаць.

На прасцягах
вольны
пушчаў гоман:
як вялося з даўняга даўна,
Нямунасу воды коціць Нёман,
а Даўгаве —
сіняя Дзвіна.

Не таму усмешку не хаваю,
што у мора б'юць мае крыніцы.
Самае святое,
што я маю,
дык любоў,
якой няма граніцы...

### ПАД ГРОМ

Спакон у гарніле вайны
шчыты ў форме сэрца
кавалі, напэўна, таму,
што яны
грамы на сябе выклікалі;
напэўна, з часіны той,
як
арда праімчалася ліхам
і ворага пікі
юнак
прабітай грудзінай адпіхваў.

Калі ж праз вякі кулямёт
свінец лютай злосці выплёўваў,
адчаяным сэрцам на дзот
лёг праўнук русявы са словамі:
«Радзіма, бывай...
Я — твой...
Я — твой да апошняй крывіны...»
Ён снег апаліў пад сабой
крывёю, як гронкай каліны...

...Збалелі эпохі ад ран...
Зноў ветры гарчэюць пагана...
Палае салютаў зара
на вашых грудзях, ветэраны.

Прабіў нам адведзены час,
і на яго паверцы
мы заступаем за вас,
шчыты агаляючы
сэрцаў.

## ГАРСІЯ ЛОРКА

Міндальным золкам
не мільдальнічаць.
Ёсць песня —
выпусці з грудзей,
турмы
азызламу начальніку,
што з галавой, падобнай чайніку,
прысуд пянькоўкаю надзець.

Закалышы, струна гітарная,
знядбаўшы бразганне манет,
над краем песню легендарную
з іскрыстым звонам кастаньет.

А вы,
разбэшчаныя ўладай,
за ўсё адплоціце спаўна.
Яна —
дзе заклік
«camarade»,
дзе закіпае гнеў — яна!..

Паэт з усмешкаю на твары
глядзіць шчасліва ў вочы дню:
калі душа гарыць пажарам,
хіба палохацца агню?
Вы не адразу зразумелі,
свой вершачы ганебны суд,—
народ не стане анямелым,
паэтаў родзячы,
і тут
паэт таму ўжо шчаслівы,
што нешчаслівы.
І дармо, служакі цемры,
навялі вы
крыжы прыцэлаў
на яго!

## НАЧНАЯ ЗОРКА

Мой добры свет, гадуеш ты герояў
не для музейных выцвілых паліц,
не для гранітнай памяці у полі,
куды яны не ступяць ўжо болей...

На варце зорка дзень і ноч гарыць...

Начная зорка дзень і ноч на ветры...
Начная зорка, што вартуеш ты?..
Няўжо Зямлю — блакітную планету —
ад холаду гранітнай нематы?..

* * *

Калі аплывае асенні касцёр
з галля учарнелага долу,
скрозь пічэцце дзірвану
праходзіць лісцё
у шэрыя скібы падзолу.

Там спеўна у кроне карэнняў
густой
былыя вятры калыхае,
пакуль не ўсплыве пад карою
вясной
галінкай зялёнаю
мая.

## ЛЕГЕНДА ПРЫПЯЦІ

### паляўнічае апавяданне

Па Прыпяці,
насустрач ночы,
нібы на крылах звездары,
плывём,
гаворым
і рагочам
на ўсе вакольныя бары.

У гэтай цішы непарушнай,
у сасняках каля ракі
рудою гліцай прыцярушаны
крамяныя баравікі.

А то шыпшына заірдзіцца
ці закіслелы барбарыс,
нібы рашыў адгарадзіцца
бор, запаліўшы свой абрыс.

У борт пляскочуць хвалі лена.
Няма жывой душы нідзе,
і толькі чаплі па калена
стаяць ля выдмы
у вадзе.

Такая воля!..
Пэўна шчасце —
у гэткай мудрай цішыні.
Пі вечаровае прычасце,
а выпіў —
дык яшчэ налі!

За стрыжнем збочым у затоку,
дзе рыба плёскае ў карчах,
а на кручыне дуб высока
нясе паўнеба на плячах.

Тут берагі да нас абжыты.
Чуваць ажно за тры вярсты —
равуць маторкі басавіта.
Вакол — кастры...
Кастры...
Кастры...

Іду на бераг, нібы ў зеўру.
Дармо імжыцца
зарапад,
вакола гэтак згусла цемра,
хоць паварочвай назад.

Іду назад...
Ды позна...
З тылу —
і не адступіш да вады —
раве пугач нячыстай сілай
і атрасае жалуды.

— Чаго крычыш, ліхое семя,
як хто пачаставаў свінцом?! —

Прастуджана гукае ў цемень
мой спадарожнік
Адзінцоў.

Ага! Падзейнічала!
Сціхла...
І перш чым лодку прымыкаць,
я нейкі корч шпурляю ліха,
нячыстага каб адагнаць.

Пазычым сена ў сенажаці,
каб ад расы не акалець.
— Яно такое тут, што, браце,
заснеш, кранешся яго ледзь!

Такая ноч!
Не ноч, а казка!
Хапай над галавой вуглі.
Наверх кладзі ссушэлых красак,
а там — лаўжок і на галлі
у зелянцова-ссохлай ціне
праз іскры вырвецца з-пад рук
агонь, грабень агністы ўскіне,
нібы вясновы цецярук.
І гэтак з Юркам Адзінцовым,
касцёр расклаўшы між дубоў,
гаворым пра калгас мясцовы,
пра луг,
пра Прыпяць,
пра баброў.

Юрась сябе назваў —
баброўнік,
бо нездарма ж у Мазыры
мікрараён яго вядомы
пад гучнай назваю —
Бабры.

Рыбак,
грыбнік
і паляўнічы.

З рабочых.
Сам рабочы.
Ён
даўно займеў сабе
за звычай,
як выхадны —
за вакаём
з вудою,
з кошыкам,
са стрэльбай
у паляўнічую пару.
Затокі ведае
і грэблі
і нават кожную нару
чытае, быццам сказ,
легенду,
і можа вам ён расказаць,
хто пятушацінкі адведаў,
а хто галодным клаўся спаць,
дзе лось блукае
адзінокі,
дзе спяць у логаве ваўкі.
Чыраначак
зеленабокіх
ён помніць гнёзды.
З асакі,
ледзь чырванню ўсход зайграе,
Тайфун іх брэхам
паўзганяе.
І ўскінем мы драбавікі.

Тайфун хоць зараз!
Вось-вось рушыць.
Нюхне.
Ускочыць.
Б'е хвастом.
Казыча цемра
яго вушы
качыным кракапнем
з кустоў.

— О, заўтра будзе тут такое!..
Адно цаляй.
Глядзі у два...
Давай жа, браце,
зверабоем
заварым кіпень.
Вось — трава...

Тым часам ноч усё глыбее.
Матор не ўзвые ні адзін.
Кастры начлежныя датлелі
уздоўж качыных балацін.

І мы пакладіся, ды сон
мінае нас, хоць леглі ў сене.
Відаць, віной таму —
азон.
Ну, што ж, прымай, касцёр,
паленне.

Зноў вырві ў цемры астравок,
чай падагрэй,
дымком прапахлы.
Ды нехта зноў
непадалёк
залапатаў,
заенчыў...
З багны
пачуўся хлюпат,
і вакол
такое раптам пачалося,
што асачыны гэты дол
у бездань падае, здалося.

— Няшчасны Егар
рве душу...
— Няшчасны?..
Раскажы, будзь ласкаў...—
вуглі кіёчкам варушу
і па баках гляджу з апаскай.

— Няшчасны Егар —
егер.
Гэта,—
шмат ледаходаў адплыло —
калі, далёкім вельмі летам,
пра што паведаю,
было.

Служыў ля Прыпяці у пана
той паляшук.
Ды як служыў!
З ружжом па лесе
раным-рана
сцяжынамі звяроў кружыў.
Падстрэліць лань.
Зубра заманіць
у яміну
на востры кол,
цецерука ўпалюе ўранні
і ўсё — на панскі пышны стол.
А там застолле раскашуе,
такое выробляюць там,
што дзікую бяседу тую
не уявіць з табою нам.
Было гасцей з усяго свету.
Як загяргечуць,
крумкачы
паузлятаюць
і ў паветры
вісяць над паркам,
крычучы.

Заморскі госць
хваліў дзічыну.
Хваліў віно заморскі госць
і тайна марыў
з войскам рынуць,
каб захапіць усё, што ёсць.

Але легенда не пра тое...—
Юрась цыгарчыну дастаў,—

...Урэшце праваю рукою
той егер пану свайму стаў.
Затое спуджана дрыжэлі
і хто, як мог, сігалі спрэс:
казуля,
заяц,
жораў белы —
хто у балота,
хто у лес —
далей,
далей...
Дзе вера тому,
хто,
прытаіўшыся з ружжом,
агнём абрынецца і громам,
а мала гэтага, з нажом,
загнаўшы раненага звера,
шыпіць,
звіваецца
вужом
над абяссіленым апчэрам.

А ў леснічоўцы між балот,
як тры чырвоныя калінкі —
ну проста бацькі антыпод,—
раслі у Егара дзяўчынкі.
Купае пушча іх расой.
Насыпле ў прыгаршчы
маліны.
Таемнай моваю лясной
апавядае ім
быліны.
Дрымучых нетраў жыхары
ім сталі роднымі такімі,
што ўсе пушчанскія дары
пароўну дзеляць сёстры з імі.
Знаходзяць раненых звяроў,
пра тое бацьку — ані слова —
замажуць рану,
спыняць кроў,

замаскіруюць адмыслова.
Пасля на Прыпяць прывядуць
і чоўнікам
на бераг правы
ціхенечка перавязуць
далей ад бацькавай
патравы.

Усё часцей чуваць стральба.
Усё радзей — звярыны гоман.
І па-ранейшаму гульба
віруе п'яна
у харомах.

Так лес маўклівым
хутка стаў.
Ды што з таго было
забаве!
І егер хітры
нагадаў
пра бераг правы
неўзабаве.
Быў гарбуном той егер,
мо
таму і злосці ў ім замнога.
Прасілі дочкі, ды дармо,
не упрасіць ніяк
старога.

Ён човен ранкам адамкнуў.
Ён у туман густы адчаліў.
Прасілі тры дачкі
раку
вярнуць яго назад,
з адчаем:
«О, рэчка-рэчанька, вярні...
або дай крылы нам,
галубка,
ніхто ж не ведае ані,
што гром смяротны грымне хутка».

І рэчка міласціва ім
дала па два крылы
крыжанак,
і скрозь густы світання дым
паплыў іх крык
папераджальны.

Ён падаў роспачна
датуль
у вадавей жахліва белы
над поймай Прыпяці, пакуль
не абарвалі яго
стрэлы...
...Юрась галлё варушыць...
З краю
касцёр успыхвае,
трашчыць,
і дуб-магуту азарае,
дзе нехта жудасна
крычыць.
— Ажно адтуль,—
хлябнуўшы чаю,
Юрась дзівосны сказ вядзе,—
душа няшчаснага блукае
па гэтай Прыпяцкай градзе,
усцяж вады,
ля пераправы,
дзе толькі слёзы па траве,
ён у дубоўніку
каравым,
жуду наводзячы,
раве.

...Народ легенду склаў...
Ты — помні
і не зважай на гэты крык.
Давай заснём,
каб з першым промнем
не скасавочыў
драбавік.

...А як прачнуліся,
ля рэчкі —
то адзіночны,
то двайны —
грымелі стрэлы
без асечкі
незразумелае
вайны.

Агніста блыталі крыжанак
паветраныя
нераты.
Адно
падранак за падранкам
куляліся
у чараты.

Каціўся хрыплы енк
сабачы,
і немаведама калі
Тайфун
з балота вынес
качку,
сп'янелы,
з пысай у крыві.

Бяру ружжо.
Ляціць чародка.
Гарачы шрот не праміне...
Пара паліць
прамой наводкай.
Ды што такое?..
Ля мяне,
хоць і стаю навідавоку,
з ружжом наведзеным ужо,
сядаюць качкі у затоку.
Дрыжыць,
калоціцца
ружжо.

А вецер хваляй
пепна гушкае,
як заганяе пад ваду.
Ніяк не наніжу
на мушку я
вяртлявую іх чараду.

І тут —
збянтэжыцца не дзіва! —
пібыта ў чарадзейным сне,
плывуць пад бераг мой
імкліва,
аб нечым кракаючы мне.

Загусла сінь над азярынай.
Дрыготка лопае крыло.
І пад трывожны крык
птушыны
нібы паданне ажыло.

...Не, не магу...
Сэнс не ў прыкмеце,
не бесхарактарнасць
віной,
калі браты твае,
як дзеці,
даверам дзеляцца з табой.

* * *

Гартаючы аджылае лісцё,
як успамін, яшчэ ад сонца светлы,
гай апусцелы голле распасцёр
аголенаю сутнасцю на ветры.

А скрозь ідуць, як орды,
туманы.

Загусла сінь прыцішаных затокаў.
Жывеш ты без падробак і мапы,
мая прырода,— ўся навідавоку.

Каму пяецца — той ва ўсю пяе.
Каму паныла — роспачна галосіць.
Хто радасць свету шчодра аддае,
а хто у света дапамогі просіць.

Такой заўсёды ты была і ёсць,
ці багна скрозь, ці смаглыя арыкі,—
бо чалавек пад сонцам тваім — госць,
а ты над ім — загадкаю вялікай...

І нам, тваім нявыхаваным дзецям —
задужа бесклапотным, а то злым,—
у гэтым тлумным, гэтым жорсткім свеце
такімі б быць, як ты, ва ўсім, ва ўсім...

## ЧАЛАВЕЧЫ ВЕК

Век чалавечы —
як след метэора —
над пошумам пушчы,
над рокатам мора,
праз сінія ветры,
прапахлыя мятай,
б'е ў цёплыя нетры
карэннем абнятыя.

Век чалавечы
ў сузор'і настылым
толькі узмах адзін
радасны
крылаў.
Толькі слязіна
На вейках стагоддзяў.

Толькі хвіліна:
прыйшла — адыходзіць.

А трэба паспець
і пасеяць, і зжаць,
і самыя вешчыя словы сказаць
зямлі, што крапае пяшчотай да слёз,
любімай, з якою раздзеліш свой лёс.

І толькі імгненне...
І толькі адно...
Дрэвам і тым
болей часу дано.
. . . . . . . . .

Век наш адметны
не колькасцю зім —
абсягам Сусвету,
што месціцца ў ім.

* * *

Пульсуе вешчы запавет:
прыйшлі любіць на гэты свет!

Зямлю любіць — бары і горы,
жанчыну, што любоў нам дорыць,
віно з сяброўскае рукі,
жыцця таемны ход такі,

і курганоў
сівую памяць,
і хаты
з дымам да аблок
над салаўіпымі гаямі,
над васільковымі палямі,

дзе корань твой,
дзе твой выток.

Бацькоўскі след,
нашчадкаў след
прыйшлі любіць на гэты свет.

* * *

Імгненная юнацтва прыгажосць.
Як яблынька у маі, ты шчаслівая.
Сукеначка зраселая...
І ёсць
штосьці у табе цнатліва-сарамлівае.

Світальнаю расінкаю дрыжыш,
а ўжо ад зор дыхнула першым холадам.
Маладзіковым садам ты бяжыш...
Таемна.
Зорна.
Молада.

...Не пазнаю ні слыхам, ні вачыма —
так аблятае з яблыняў імгла...
Няўжо нядаўна гэтая жанчына
дзяўчынкай тою юнаю была?!.

## СВЯТА ПРАТАЛІН

Не бывае вечнаю зіма
ні ў душы панылай,
ні ў прыродзе.
Пасля стыні лёдавай
сама
урачыстасць наступу прыходзіць.

Ты паслухай,
як сыходзіць снег
у замглёнай сонечнай прасторы!
Струнамі ударыўшы са стрэх,
пачынае сыпаць пераборы
ручаёў,
рачулак
і званоў,
што дрыжаць над цёплымі пагоркамі,
і слязой салодкаю кляноў,
і вятрамі,
далеччу прагорклымі.

Ацякае неба на зямлю
і густой сінечаю гайдаецца.
Пасылаю з ветрамі
«люблю»,
а мне рэха тым жа адгукаецца.

Усё насцеж —
вокны і душу,
новы вецер
сэрцам прывітаю я,
хай, што заляжалае нашу,
дымнаю праталінай
вяртае мне.

* * *

Нібы ў шторме надзеі маяк,
я любоў тваю,
любая,
клікаў.
Ты скрозь далеч шаптала:
«Ніяк
да цябе, хлопчык мой, не прывыкну».

У снягах я адхукваў май,
ручаінай звінеў і арыкам,
а ты мне ўсё адно:
«Пачакай,
да цябе я ніяк не прывыкну».

Мітусілася ў клетцы —
як быць! —
мая роспач
аленіцай дзікай
(тут дарэчы і воўкам завыць):
«Не прывыкла яшчэ...
Не прывыкла...»

А калі дагарэў мой касцёр —
толькі прыску віхор на вуголлі,
толькі дым шызы
крылы прасцёр
са шчымлівай гаркавінкай волі.

І тады,
як у свеце адзін,
даганяў следам голас панік лы:
«Я прашу...
Я прашу...
Не ідзі...
Ад цябе я цяпер не адвыкну...»

## СНЕГ ЮНАЦТВА

Вясну завея закруціла,
і гарадок
ажно да стрэх
птушыным выраям надзіва
пазамятаў,
засыпаў снег.

Ледзь выплываў дзень
з-за пагоркаў,
ад хмельных пчол
вакол гулі
у белых воблаках
падворкі
і дзьмухаўцовыя палі.

Вясна ў бярэзніку цадзіла
у вёдры
месячны блакіт,
каб сцежка наша заблудзіла,
сышоўшы з тратуарных пліт.

Зямля і неба...
Красамоўней
няма маўчання...
Цішыня...
І толькі — лес.
І толькі — поўня.
І толькі — ты.
І толькі — я...

Вясна для нас —
ледзь-ледзь адтала —
буяла так у тыя дні,
каб сэрца
сэрца напаткала
у зарападавым агні.

* * *

«О, любы мой...»
Не трэба слоў такіх.
Былога ў іх —
хіба што рэха толькі.

Адкуль і як
ты зноў прынесла іх,
якім жа ветрам
прамаўчаўшы столькі?

«О, любы мой...»
Прашу — маўчы...
Маўчы!..
«О, любы мой...»
Ты, жорсткая, караеш! —
І вочы са слязінкамі начы
цалуючы,
сябе я праклінаю.

«О, любы мой...
Каб зноў вярнуць гады...»
Прашу цябе, любімая,
не трэба.
«Глядзі, для нас сягоння,
як тады,—
бялюткі дзень,
і цішыня,
і неба,
а схлынуць хмары,
будуць капяжы
вызвоньваць нам
срэбранае скерца!..»
То не для нас.
«А для каго ж, скажы?..»
Для тых,
хто сэрцам
адчувае сэрца...

З'інелі іскры
бела-сінім страхам.
Світальныя
пагашаны кастры.
Імглой клубістай
падае на дахі
апошні снег,
вясновы і густы...

* * *

Крылаты катэр,
пенна-ўзмылены,
у бухту сінюю
нас нёс,
а хвалі
волатнымі крыламі
падкідвалі
аж да нябёс.

Сініцца даль,
а ў ёй адзіна
ці чайка раптам
мільгане,
ці, можа,
юная грузінка
хусцінкай белаю
махне.

Прайдуся вогненнай лязгінкай
і рог сябрынны
асушу.
Калючую,
нібы ажынку,
сонцагалосую грузінку,
заваражу,
заваражу.

* * *

Я канчаткова заблытаўся —
чаму гаворым:
«Віно і жанчыны».
Яны паасобку нібыта
ў мужчынскім жыцці немагчымы?..

## ЯШЧЭ...

Яшчэ зялёны лёд не хрумснуў.
Яшчэ
нецалаваных вуснаў
не апаліў
гарачы хмель.
Яшчэ галінкаю вярбовай,
развёўшы фарбы снегіровай,
мароз малюе акварэль.

Яшчэ дымяцца сопка
гурбы.
Яшчэ цябе не клічу
любай.
Ты ўскалыхнеш яшчэ
дазвання
любві
бяссоннае
паўстанне.

Яшчэ,
скаваны халадамі,
мой двор не цепліцца слядамі,
дзе ўзыдуць,
быццам сонца фрэскі,
залатаногія пралескі.

Праз беразняк,
дзе звон падсочкі,
яшчэ не прыйдзеш уначы,
у цемры
горача
здымаючы
сваёй бязгрэшнасці
сарочку.

Яшчэ не сказаныя словы...
Яшчэ няма жыцця паловы...

Яшчэ...
        Яшчэ...
                Яшчэ
ліхтарыкам тваім
вярбінка
гайдае снегіра ў галінках.

* * *

Ёсць пяшчотныя дзве сілы,
што мацней,
                чым сілы грубыя.
Я — адна з іх
                (калі мілы).
Ты — другая
                (калі любая)!

### ПОЗНЯЯ РАЗМОВА

— ...Не вер жа нізкаму суду...
— Раскаяў позніх не прымаю...
— Дазволь тады
я завітаю,
хоць на хвіліначку зайду...

— Прыйдзеш?..
— Прыйду!
— ...Але не позна...
— Дык, значыць, можна?..
— Значыць, можна...

Што павуціна чараў злых,
цябе гардзіна захінае. 1

Аж глушыць выбухамі слых,
бягу,
і лесвіца крывая
усё зблІжае нас,
зблІжае,
і хутка
ціхае:
«Кахаю»,
задыханы,
закалыхаю.

...Зірнула.
Шчоўкнула ключом.
Адгарадзілася плячом.
І запрасіла неяк чынна
ў пакой...
А там ужо —
мужчына.

Два шкалікі на стол паставіла,
і, ўліўшы зелля абаім,
яго як мужа
мне прадставіла,
мяне —
прыяцелем сваім...

## ЛІРЫЧНАЯ РАНІЦА

Паважна ідзе,
самавіта,
спазнаўшы жыццё да азоў,
народ баявы,
басавіты,
дыктуючы вуліцам рытм
пад віскат і скрып тармазоў.

Направа —
                дарога прамая.
Налева —
                шырокі праспект.
Юнак даланю пацірае —
свой першы рабочы канспект.

Зацокалі —
                зыркнулі znічкі
на нечы зняважлівы жарт —
дзяўчаткі, нібыта сінічкі,
абцасікамі аб асфальт.

Ацёршы санлівую млявасць,
лірычную збіўшы хандру,
з вагранщчыкам
                і сталяварам
на вахту сумленна іду
у цэх,
дзе ад молата ўдары
ажно скаланаюць,
                туды,
дзе белая кіпень металу
заваранай крута
                руды,
туды,
        дзе, як сэрца,
                суладна
пульсуе,
        грукоча,
і дзе
ў пашане не пафас парадны,
а справа...
А справа ідзе!
У ёй,
        ад агню маладжавай,
асмужанай ветрамі вех,
размераным рытмам,
                дзяржаўным
ракоча канвеерны цэх.

Там іскры,
што гронкі каліны,—
ад лірыкі дзенешся дзе?..
Машына...
машына...
машына
адна за адною ідзе.

## РУКАМ МАЛЮСЯ ХЛЕБАДАРНЫМ

Хвала вам, рукі хлебароба,
цяжкія рукі ў мазалях.
Не ўзгадавалі вы падробак
і ні ў душы,
і ні ў палях.
Для вас зямля найперш —
багацце.
Гара...
Тарфянік гразкі...
Скрозь —
у кожным полі,
кожнай хаце —
свой непаўторны почырк ёсць.

«Ах, салаўі!..»
«Ах, луг!..»
«Ах, кручы!..» —
Не вашы ўсплёскі ў забыцці,
а ўзнёсласць выпешчаных ручак,
якім — што ведама ў жыцці?!

На вас,
нібы на зрэзе дрэва,
жыцця
маршчыністы развод
з агню
і сцюжы акалелай —

за годам год,
за годам год.
Хай пацяшаецца пыхліва
неўраўнаважаны эстэт
з экрана сіняга,
калі вы
карове скорміце букет.

Эстэту, мабыць што, вядома,
на чым трымціць ягоны дух —
на тых руках,
цяжкіх,
нястомных,
аруць і сеюць што
за двух.

Вы там,
дзе дождж,
дзе снегу гліца,
дзе вецер вые качавы...
На вас даўно
пара маліцца:
калі ёсць бог —
то гэта — Вы!

* * *

Пакуль духмянага ёсць хлеба,
а чарка не стаіць адна,
ты не сумуй, душа,
не трэба —
нальём мядзвянага віна!

Нальём сябрам, і нашай песні,
і той жанчыне маладой,
такой парывістай і весняй,
што авалодала табой!

Пакуль паруе цёпла глеба
і ў зерне дыхае вясна,
ты не сумуй, душа,
                    не трэба —
нальём зялёнага віна!

Каб кожны парастак прабіўся
і выйшаў гонкай сцяблінай
між тых сцяжынаў,
                    дзе у высі
вісіць жаўрук над ярынай.

Пакуль над намі зорыць неба,
апёкшы крылы груганам,
ты не сумуй, душа,
                    не трэба —
нальём зялёнага віна!

## ПЕСНЯ БЕДУІНА

Сонца хацеў бы зацьміць маладзік,
жаба —
        на крылах узняцца.
Хоча,
        хто змушаны ў зрэб'і хадзіць,
у аксаміт апранацца.

Калі ў аксаміце,
                    ты — кум каралю,
павагі і гонару варты.
Ты — бог пастуху.
Ты — бог кавалю.
З табою — маленькія жарты!

І колькі Зямля кружыць —
сеча і бой.

Крычым:
«На заклятага ворага!»
І вораг — за меч,
і з нянавісцю той:
ёсць і ў яго,
што дарага...

І гэтак да самых пустэльных дзён
(ну, быў бы яшчэ неўміручы!)
жыве чалавек
і змагаецца ён
на грунце жыцця
сыпучым.

## ЗАСТОЛЬНАЯ ПЕСНЯ ТУНІСКАГА ДОКЕРА

Толькі ціха!
Каб жонцы — ні слова!
А пакуль
налівай па новай.
Віно студзіць душу і вены.
Толькі жонцы, браткі,—
ні слова!
Запалае, нібы палена.
Баба мае характар такі,
што Сахара,
гарача-каляны.
Баба,
быццам гаршчок гліняны:
падзьме вецер —
звініць пасуда,
а мацней —
зазвіняць чарапкі!

* * *

За чаркаю усе мы Дон Кіхоты,
ірвёмся зло на піку нанізаць,
а калі чаркі апусцеюць,
потым...
Ды што пра тое рыцарам казаць?!

* * *

Я гэткіх слоў квяцістых
і не чуў —
высокі склад,
шматзначныя намёкі...
Ды я ж за ўсё,
за ўсё гэта плачу
сваёй душы,
свайго жыцця
аброкі.

Каб ісціну і праўду
зберагчы,
кляймілі дэмагогію,
а ўсё-такі
яна між нас,
трыбунна крычучы,
ганяе вецер
прытарна-салодкі.

* * *

Быццам бы і дзверы замыкаем,
ведаем, што здарыцца,
калі,
хоць малыя троны,
а з адчаем
хцівыя захопяць каралі.

Не адразу, ведама, прыходзяць
здрадлівыя поспехі да іх...
Нешта смеласць сталася не ў модзе
у сяброў-паплечнікаў маіх.

І пакуль маўчанне тоіць кожны
(«хата з краю» —
рабская прывычка),
хцівая пасрэднасць
асцярожна
падбірае
да замкоў
адмычкі.

## НЕПАЎНАЛЕЦЦЕ

Хлопчык мой
з грымасаю каўбоя
і вачмі
з халоднаю слюдой,
што, скажы,
здарылася такое,
што так авалодала табой?..

Не пазнаўшы горычы трывожнай
сутнасці жыцця,
яму услед
ты глядзіш,
наіўны,
пераможна,
звузіўшы у зрэнках гэты свет.

Недзе даль,
развораная ветрам.
Гром металу...

Водбліск заравы...
Штроксы з ярлыкамі —
не прыкмета,
што ў цябе
характар дзелавы.

Танным бляскам
дзеля форсу свеціць
бляшка
самароднага крыжа.
Пэўна ж, прыйдзе,
як бывае ў свеце,
час развагі.
Прасеецца імжа.

І тады,
сарваўшы маску з твару,
як акцёр,
замучаны ад драм,
аддасі сябе ўсяго пажару
болі чалавечай
і вятрам.

Я хачу паверыць...
Каб аднойчы
і цябе
у нечым зразумець.
...Толькі б мне
спагадлівымі
вочы,
твае вочы,
хлопчык мой,
сустрэць.

## ТАЙГА

За балотамі
і за сопкамі,
за ярамі,
разлівамі рэк,
ад сцяжынаў людскіх
далёка
заблудзіўся ў тайзе
чалавек.

Недзе гулкія
аўтастрады,
недзе
белыя гарады.
А ён стому
ля вадапада
запівае
глытком вады.

Дрэмле выстылая
кручына,
глуха шэпчуцца
кедрачы.
Адзінока так!
Немагчыма!
Хоць ратуначкі закрычы.

Цепліць вогнішча
ноч халодную
пад Мядзведзіцай,
а мядзведзь,
равучы сваю песню галодную,
у сябры не напросіцца ледзь.

Адно пораху пах
ад кастрышча.
А слязіначка
з-пад павек,

быццам зорка упалая,
блішча:
спіць здарожаны
чалавек.

А тайга
і балотам,
і сопкамі —
можна ўсё за такое аддаць —
будзе
самыя ў свеце салодкія
чалавечыя сны
калыхаць.

* * *

На жытняй вярсце,
калі пыльным пайсці бальшаком,
дзе сэрцу прасторна,
і думам шырока і гонка,
на выспе зялёнай
вятроў спадарожных сустрэнецца дом —
рунее сасонка.

Навокал у жыце зраселым гарцуюць зайцы,
чырвоныя поўні на колкай шыпшыне
ўзыходзяць.
На зайздрасць сабакам
у вёсцы гарласта хлапцы
парою пад поўнач
схмялелую песню выводзяць.

Аж пеўням, блазноты, увесь пераблыталі час:
гарланяць з падворкаў
асіплым разладжаным хорам...
Такою парою,
парою такою якраз
шчасліва любові,
сагрэтай вуглінамі зораў.

Такою парой,
калі трызнілі вішні зарой,
і мне у душу балючая іскра запала.
Пад тою сасонкай,
на высне пясчанае той
жытнёвае крылле ў калоссі сваім загайдала.

Узмежак жытнёвы сцяблінамі рукі спавіў,
а колер валошкі
у вочы мае пераліўся.
І, мусіць, тады,
як на крылах жытнёвых я плыў,
к табе таямнічай любоўю навекі пранікся.

Глядзіш ты, Радзіма,—
і слёзы у зрэнках маіх —
ты ціха гаворыш мне словы зялёнага вецця,
і сыну твайму сёння кожная з іх,
што зорка над нівай бяссмертнаю, свеціць.

І я, бытта колас,
у полі пад ветрамі рос.
Адчуў па начах,
калі крона стагнала сасонкі,
радзімай зямлі перасолены войнамі лёс
з тае учарнелай
з арнаментам смерці
салонкі.

Я плоццю увесь
ад дум і прастораў тваіх,
дзе жылкі дарог
братэрскія сэрцы з'ядналі,
бо гэтыя нівы
у складках разор палявых
і хлебам і песняй
журботна мяне гадавалі.

Спынюся я ноччу пад кронай сасны маладой,
прысяду на ўзмежак,
як стомлены працай араты.

А я ж — і араты,
і помнік на магілцы той,
дзе спяць маладыя пад голлем паніклым
салдаты.

Напэўна ж, душой зарунелай
кранууся дзівос,
як песня жытнёвая
белым туманам загушкала:
пад сінім скляпеннем,
пад звонкім скляненнем
нябёс
плыву па начах я
крылатаю шэраю птушкаю.

А скрозь пада мною
стамлёная дрэмле зямля
і спее калоссе
і звоніць,
налітае зернямі.
І з гэтай зямлёю
навекі заручаны я
сцяблінамі жытнімі,
найтрывалейшымі нервамі.

## МАІМ ЧЫТАЧАМ

Я зусім звычайны чалавек,
гадаваны полем і барамі,
як і ваш,
мой чалавечы век —
усё тыя ж
радасці і драмы,
усё тыя ж
слёзы, мазалі,
усё тая ж
чорная работа

дапазна,
да захаду,
калі
Млечны Шлях
гарыць у кроплях поту.
А калі гукаю гучна:
«Я!»,
не сябе ўслаўляю на паказе —
вас,
каму —
любоў уся мая,
маю перш за ўсё я
на увазе.

* * *

Ну, што ж, і я пісаць пісаў
з нагоды,
без нагоды...
А што народу падказаў,
што я сказаў народу?..

Магчыма, так спытаю я
ў сябе
падчас знямогі,
калі супыніць час
мае
сцяжыны
і дарогі.

Успыхне солана сляза.
І мець за ўзнагароду
не тое,
колькі напісаў,
а што сказаў народу.

* * *

Вось і ўсё,
адшумела лісцё
і зялёная радасць былая.
І шугае гаркавы касцёр:
што было
і што ёсць
дагарае.

Цішыню
урачыстыя сны
зноў калышуць на нітках бялесых,
і ў замглёную далеч
вясны
ты глядзіш
цеплынёю пралесак.

## ЗМЕСТ

2.
ДУША

**Пашкоў Г.**

П 22 Зямлю слухаю: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 95 с., іл.

45 к.

Роздум аб месцы чалавека ў жыцці, аб нашым складаным і хуткаплынным часе, трывога за лёс Зямлі, над якой гусцяцца хмары небяспекі, заклапочанасць лёсам прыроды, чысцінёй душы чалавечай, адданасць Радзіме, пачуццё шчырай павагі і любові да жанчыны — усім гэтым жыве наш сучаснік, лірычны герой новай кнігі паэта.

П $\frac{4702120200-078}{М 302(05)-83}$ 63—83

ББК 84Бел 7
Бел 2

Геннадий Петрович Пашков

ЗЕМЛЮ СЛУШАЮ

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак І. М. Лобан. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 1710
Здадзена ў набор 25.01.83. Падп. да друку 20.04.83. АТ 08592. Фармат 75×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,75. Ум. фарб.-адб. 3,83. Ул.-выд. арк. 4,24. Тыраж 4000 экз. Зак. 3347. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.